валіся ў хлеў Станіславы Кожэнеўскай і хацелі вывясьці карову, але іх заўважылі, і яны ўцяклі. Аднаго са зладзеяў, работніка Міхала Шостака, спазналі, і суд засудзіў яго на 2 месяцы ў вастрог.

ЛІБАВА. На тутэйшай мэтэоролёгічнай станціі пастаноўлен першы у нашым краю гэліограф, каторы аўтоматычна запісвае паяленьне сонца і закрыцьце яго. За ўвесь верасень сонца праз 26 дзён сьвяціло 115 гадз., у кастрычніку праз 20 дзён — 65 гадз., у лістападзе праз 14 — 33гадз., у сьнежню праз 13 дзён — 23 гадз. і у студню праз 11 дзён — 14 гадз. Гэтак сярэднім лікам сонцэ ў дзень сьвяціло: у верасьні — 5, 5 гадз., у кастрычніку — 2,1, у лістападзе — 1,1, у сьнежню — 0,7, у студню — 0,4 гадз.

# ВЕСТКІ З РАСЕІ.

ПЕЦЯРБУРГ. Пасьля таго, як большэвікі разагналі селянскі з'езд у Пецярбургі, вялікарусы пакінулі праект сазваць свой з'езд у Пецярбургі і пастанавілі назначыць яго ў Маскве. На гэтым з'ездзі маюць быць устаноўлены граніцы вялікарускай рэспублікі і число прэдстаўнікаў іншых нацыональнасьцей Вялікай Расеі. Будзе організован такжэ новы тымчасовы урад, каторы будзе адказваць перад устаноўчым сэймам.

БЭРЛІН (П.Т.А). У Пецярбургі аб'яўлен дэкрэт аб свабодзі сумленьня, аддзяленьні цэркві ад гасударства і скасаваньні ўсіх прывілеяў, звязаных с прыналежнасьцю да тэй ці іншай веры. Царкоўная прысяга касуецца і заменяецца урачыстым словам. Рэгістрація шлюбаў і нарадзін вядуць цывільные ўласьці. Навучаньне рэлігіі у школах—не абавязковае. Царкоўные і рэлігійные організаціі ня могуць ўладаць ніякой маетнасьцю. Усе царкоўные маетнасьці аб'яўляюцца за гасударственае меньне.

Абурэньне набожных людзей с прычыны дэкрэту—надта вялікае, і маскоўскі патрыарх кінуў на большэвікоў вялікі праклён. У апошнюю нядзелю адбыліся вялізарные урачыстые працэссіі з усіх цэркваў.

Рэквізыція Алексадра-Невскай Лаўры вызвала першую стычку між рэспублікай і цэркваю.

Адбылася вялізарная дэмонстрація проці рэквізыціі, зложэная перэважна с кабет; пецярбурбурскі мітрапаліт і іншые духоўные адпраўлялі службу пад адкрытым небам.

ШТОКГОЛЬМ. С Торнэо наказуюць, што расейскіе салдаты тамака паддаліся. У Улеаборгу—вострые бітвы. Згарэў цэлы квартал. У ваколіцах Гаммэрфорсу ўзорван поезд с «чырвонай гвардзіей». Апаранду заняла «белая гвардзія».

ШТОКГОЛЬМ. Па ўсей Швэціі вядзецца прапаганда за тое, каб даць помач Фінляндзіі. У Штокгольмі адбыўся публічны сход, на каторым прынята рэзолюція аб патрэбе заступіцца за братні фінляндскі народ. Усе газэты друкуюць змест проклямаціі, трэбуючай пропуску аружжа ў Фінляндзію. Запісалося многа самахвотнікаў.

ПЕЦЯРБУРГ. Кітайскае пасольство апавешчае аб занятці Харбіна кітайскім войскам, бо Харбін — гэта кітайская зямля. Аднак, кітайская рэспубліка хочэ быць добрай суседкай расейскай рэспублікі.

ПЕЦЯРБУРГ. «Новая Жизнь» наказывае з Владывастоку аб вострых бітвах між японцамі і «чырвонай гвардзіей».

ПЕЦЯРБУРГ. Фінансовае палажэньне Расеі—страшэннае. Пакупная сіла рубля упала да 10 к. Дэфіцыт за бягучый год аблічаюць на 10 мільярдаў рублёў. Чыгункі ня могуць пакрываць бягучых выдаткаў. Кожын работнік атрымлівае цяпер па чверць фунта хлеба ў дзень.

ЛОНДОН. «Times» наказывае с Пецярбурга:

Спажыўных прадуктаў ёсць усяго на некалькі дзён. Хлеб складаецца з мешанкі мукі с саломай. Нават у бальніцах белага хлеба німа.

МАСКВА. Большэвік Максімов у свaей прамове на сходзі большэвікоў гаварыў аб патрэбе «сьвятой вайны», каб збудзіць новы энтуз'язм.

# Украіна.

КІЕУ. Рада салдатаў 26 корпуса заявіла, што 50,000 казакаў бубудуць падцзержываць украінскую цэнтральную раду проці уселякіх спроб харкаўскага большэвіцкага ураду захапіць уласьць у сваe рукі. Казакі кажуць, што яны выжануць большэвіцкіх насільнікаў з Украіны.

КІЕУ. Большэвіцкіе войскі выкінуты с цэнтру места. Бітвы яшчэ йдуць на акраінах.

ШТОКГОЛЬМ. Жыдоўскае бюро прэссы апавешчае, што украінская рада прыняла закон, паводлуг каторага ў межах Украіны заводзіцца нацыональная аўтономія Азначэньне яе належыць да нацыональных устаноўчых сэймаў паадзінокіх народнасьцей.

# З усяго сьвету.

ВЕНА. Аўстрыяцкі міністэрпрэзыдэнт, Зэйдлер, падаўся у адстаўку. Імпэратар Кароль адстаўкі яго не прыняў.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## Нямецкіе апавешчэньня:

8.II. Заходні тэатр:

Блізка на ўсенькім фронці слабая чыннасць. На заходнім беразі Маасу, пры Бэзонво і на палудзенным заходзі ад Орн наша пяхота ўзяла палонных.

9.II. Заходні тэатр:

*Фронт Рупрэхта Баварскага:* На паўночы ад Пашэндаля і на заходзі ад Оппі ўзяты палонные.

*Фронт Альбрэхта Вюртэмбэрскага:* На паўночы ад Ківрэ узяты ў палон амэрыканцы.

Усходні тэатр:

А 2 гадзіне раніцай падпісан мір з Украінай.

10.II. Заходні тэатр:

*Фронт Рупрэхта Баварскага:* На паадзінокіх адрэзках фронту — агонь артылерыі. Узяты ў палон французы, бэльгійцы, англічане.

*Фронт нямецкага Насьледніка і Альбрэхта Вюртэмбэрскага:* У ваколіцах Маасу, на абапал Мозэля і каля Нансі — жывейшая чыннасць ворагаў. У даліне Содль французы часова ўварваліся ў нашы акопы.

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). У Сяродземным моры падводнымі лодкамі затоплено ізноў 26.000 тонн.

ЛОНДОН (Рэўтэр). Параход „Тиsкапіа" з амэрыканскім войскам затоплен ля ірляндзкага узбярэжжа. З 2.397 салдатаў выратаваны 2.187.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Адна з нямецкіх падводных лодак затапіла ў канале Ляманш і ля берагоў Франціі 3 параходаў і 2 парусьнікі разам ёмкасьцю 28.000 тонн. Між імі адзін французскі парусьнік вёз 315.000 літраў рому.

# АБВЕСТКІ.








Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтва «Гоман». Рэдактар Язэп Салавей.